*Ранняя ярава збожжавыя і зернебабовыя культуры (без кукурузы, грэчкі і проса) пасеялі ў Беларусі на 20,1 працэнта запланаванай плошчы.*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

**№ 24 (4482)**

24 сакавіка 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*



**АФІЦЫЙНА**

## Каранавірусная статыстыка

*Учора Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь агучыла свежую інфармацыю па каранавірусе. На панядзелак быў зарэгістраваны 81 выпадак інфіцыравання COVID-19. Старэйшаму пацыенту 78 гадоў, самаму малодшаму – 3 гады.*

*Пралячыліся і выпісаліся альбо рыхтуюцца да выпіскі 22 пацыенты. Яшчэ 59 знаходзяцца пад медыцынскім кантролем і на лячэнні.*

*41 выпадак заражэння каранавірусам – завозны.*




*Фота tut.by.*

**СІТУАЦЫЯ**

## За што асудзілі Уладзіміра Цыгановіча?

*У лютым блогер прапанаваў людзям задаць работнікам “Белнафтахіма” пытанні, актуальныя для ўсяго грамадства, а ў выніку атрымаў 15 сутак арышту.*

Блогер **Уладзімір Цыгановіч**, які вядзе youtube-канал MozgOn, 24 лютага ў сваім тэлеграм-канале прапанаваў усім, каго непакоіць пастаяннае павышэнне коштаў на паліва, прыйсці да “Белнафтахіма” і задаць пытанні на гэты конт кіраўніцтву канцэрна.

Праз дзень пасля гэтага на сустрэчу прыйшло некалькі дзясяткаў чалавек. Адбылася размова з прадстаўнікамі канцэрна, якія выйшлі да людзей на вуліцу.

У выніку блогер днямі быў асуджаны завочна на 15 сутак адміністрацыйнага арышту за заклікі ў інтэрнэце да ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

Як юрысты ацэньваюць такое рашэнне суда?

**Аляксандр ГАЛІЕЎ, сябра Мінскай гарадской калегіі адвакатаў:**

– Я мог бы ацаніць судовае рашэнне з пункту гледжання заканадаўства, але толькі ў тым выпадку, калі б быў знаёмы з матэрыяламі справы. Трэба ведаць, што ўказана ў пратаколе, у фабуле правапарушэння.

Таму адвакаты нярэдка ўстрымліваюцца ад каментавання нейкіх спраў, калі раней не знаёміліся з іх матэрыяламі. У адваротным выпадку высновы, скажам так, будуць няпоўнымі.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ, праваабаронца:**

– Паводле беларускага заканадаўства, блогер арганізаваў несанкцыянаванае масавае мерапрыемства, бо раней заклікаў людзей прыйсці ў пэўнае месца ў пэўны час. Адпаведна, ён парушыў парадак правядзення масавых сходаў. Трэба было спачатку падаваць у Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне акцыі, хаця, хутчэй за ўсё, ніхто б не дазволіў ладзіць ля канцэрна мітынг-сустрэчу.

Гэтае заканадаўства, якое рэгламентуе парадак правядзення мірных масавых мерапрыемстваў, ужо даўно крытыкавалася і рознымі міжнароднымі арганізацыямі, і беларускімі праваабаронцамі. Яно не адпавядае міжнародным стандартам і вельмі сур’ёзна абмяжоўвае рэалізацыю гэтых свабод на практыцы.

Таму з нашага пункту гледжання судовы прысуд Цыгановічу – гэта праслед блогера за яго меркаванні. Людзі сабраліся на мірны сход, каб задаць актуальныя для ўсяго грамадства пытанні і атрымаць на іх адказы. Што тут крымінальнага?

Зрэшты, у гэтай сітуацыі нічога новага няма, яна ў рэчышчы нашых пастаянных праблем. Тут таксама можна ўзгадаць і снежаньскія падзеі мінулага года, калі людзі выйшлі на вуліцу, каб выказацца ў падтрымку незалежнасці краіны, а іх за гэта каралі вялізнымі штрафамі. Таму, паўтаруся, закон аб масавых сходах даўно састарэў, і яго неабходна карэктаваць.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ПАЗІЦЫЯ**

Сяргей ЧЭРАЧЭНЬ, старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада»:

## «Самім выжыць будзе вельмі цяжка…»

*Бізнесмен і прэтэндэнт ў кандыдаты на пасаду прэзідэнта на выбарах 2020 года Сяргей Чэрачэнь напісаў зварот у Цэнтральную камісію па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў. Ён просіць Цэнтрвыбаркам ужо зараз паклапаціцца пра здароўе выбаршчыкаў, а ў выпадку крытычнай сітуацыі разгледзець варыянт пераносу выбараў на перыяд пасля стабілізацыі сітуацыі з каранавірусам.*

*«Народнай Волі» палітык таксама распавёў, што, паводле яговых прагнозаў, многім беларусам у бліжэйшыя месяцы прыйдзецца даволі цяжка ў фінансавым плане.*

«Згодна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь у бягучым годзе ў нашай краіне мусяць адбыцца прэзідэнцкія выбары не пазней за 30 жніўня. Адразу пасля афіцыйнага аб’яўлення даты выбараў распачнецца выбарчая кампанія. І гэта мусіць адбыцца ўжо хутка, – *гаворыцца ў звароце Сяргей Чэрачня да ЦВК.* – Выбарчая кампанія прадугледжвае мноства публічных сустрэч як у адкрытых, так і ў закрытых прасторах, дзе будзе збірацца адначасна многа людзей. У сувязі з гэтым лічу, што ЦВК ужо зараз мусіць прыняць неадкладныя меры па нейтралізацыі пагрозы ад новага каранавіруса для здароўя нашых грамадзян падчас выбарчага працэсу.

Сярод неадкладных мер могуць быць такія, як забеспячэнне сябраў ініцыятыўных груп медыцынскімі маскамі і медыцынскімі прэпаратамі для гігіены ў неабходнай колькасці; апрацоўка і дэзінфекцыя памяшканняў і тэрыторый, дзе будуць праходзіць сустрэчы; прысутнасць медыцынскіх службаў на выбарчых мерапрыемствах…

У выпадку крытычнай сітуацыі разгледзець варыянт пераносу выбараў на перыяд пасля стабілізацыі сітуацыі з каранавірусам у краіне. У адваротным выпадку не толькі на ўладзе, але і на сябрах камісіі будзе ляжаць персанальная адказнасць за здароўе і жыццё выбаршчыкаў».

**– Сяргей, вы раней шмат ездзілі, падарожнічалі. Зараз ваша жыццё моцна змянілася?**

– Многія сустрэчы, запланаваныя на сакавік і красавік, на жаль, адмяніліся. Шмат што мы перанеслі ў анлайн, хоць асабістыя сустрэчы даюць большы эфект.

**– Вы верыце, што выбары могуць перанесці на больш позні тэрмін?**

– Складана зараз рабіць прагнозы… Не думаю, што цяпер урад моцна турбуе пытанне выбараў – утрымаць бы эканамічную сітуацыю! На мой погляд, калі не адбудзецца нейкі цуд ці не вынайдуць вакцыну ад каранавіруса, праз два-тры месяцы мы апынёмся ў вельмі цяжкай сітуацыі. І пытанне будзе стаяць не аб выбарах, а аб элементарным выжыванні!

Цяпер шматлікія сектары эканомікі замерлі, некаторыя віды бізнесу могуць проста загінуць. МТЗ і БМЗ перажываюць надзвычай цяжкі перыяд, праблемы на Беларускай чыгунцы – больш за 200 праваднікоў адпраўлены ў неаплачвальныя адпачынкі. Ва ўсіх сферах, якую ні вазьмі, сёння праблемы!

Мне хацелася б, каб мы выйшлі з гэтай сітуацыі без вялікіх страт. І, калі ёсць магчымасць, трэба адшукаць фінансаванне для падтрымкі прадпрыемстваў, бізнесу і звычайнага насельніцтва. Цяпер пра гэта трэба думаць у першую чаргу, а не пра дату выбараў. Таму што такіх праблем, якія могуць быць, у нас яшчэ ніколі не было.

**– І што, па-вашаму, трэба рабіць? Які рэцэпт?**

– З улікам таго, што ў нас няма падушкі фінансавай бяспекі, трэба з кімсьці дамаўляцца. Я маю на ўвазе ў першую чаргу той жа Еўрапейскі Саюз. У іх, вядома, зараз таксама нямала праблем, але, калі мы не атрымаем фінансавай падтрымкі, не ведаю, як мы ўтрымаемся. У дадзенай сітуацыі я бачу выхад толькі альбо ў раскупорванні золатавалютных запасаў, якіх у нас не так шмат, альбо ўсё-такі павінна быць падтрымка партнёраў. Самім выжыць будзе вельмі цяжка. Але будзем верыць у лепшае!

Што канкрэтна трэба рабіць? Каб мінімізаваць страты, выстаяць перад рэальнай небяспекай і ўтрымаць эканоміку краіны, неабходна аператыўная дзяржаўная праграма, якая хаця б часова зменіць правілы функцыянавання практычна ўсяго – ад механізмаў у эканамічных працэсах да пытанняў самакіравання ў рэгіёнах.

Для таго каб пазбегнуць эканамічнай катастрофы, лічу, прама цяпер урад павінен прыняць рашэнне аб замарозцы страхавых узносаў у ФСАН (35%) і падаходнага падатку (13%) тэрмінам не менш за тры месяцы, адмяніць на гэты ж перыяд часу адлічэнні на капітальны рамонт, дарожны падатак і ўсе дзяржпошліны.

На вышэйшым дзяржаўным узроўні павінны быць разгледжаны наступныя пытанні:

– адкрыццё беспрацэнтных крэдытных ліній на выплату заработнай платы з разліку 50% ад заробку за люты, сакавік і красавік пры захаванні штату супрацоўнікаў на прадпрыемствах;

– увядзенне фіксаваных арэндных ставак для плошчаў рознай класнасці (абавязковыя для ўсіх арэндадаўцаў на час пандэміі), у тым ліку і для некамерцыйнай нерухомасці;

– продаж вуглевадародаў у камерцыйны і дзяржсектар па сабекошце (на час пандэміі);

– рэгуляванне максімальнай надбаўкі для тавараў першай неабходнасці на ўзроўні 5%;

– пераход на трохдзённы працоўны тыдзень для супрацоўнікаў прадпрыемстваў, якія не ўдзельнічаюць у асноўным цыкле вытворчасці тавараў і паслуг, а таксама для ўсіх работнікаў бюджэтнай сферы, за выключэннем урачоў і службаў МНС;

– адтэрміноўка па крэдытах (на час пандэміі);

– адтэрміноўкі па выплаце ўсіх відаў штрафаў і пені;

– фарміраванне стабілізацыйнага фонду па пытаннях адраснай падтрымкі прадпрыемстваў, якія не маюць магчымасці функцыянаваць ва ўмовах каранавіруса (падзенне выручкі больш як на 50% і ўваходжанне ў зону стратнасці);

– забеспячэнне рэальнай дапамогай па беспрацоўі людзей, якія будуць звольнены пасля 1 красавіка 2020 года (на час пандэміі плюс 6 месяцаў пасля нармалізацыі сітуацыі);

– кампенсацыя ўсім грамадзянам Беларусі аплаты камунальных паслуг пры перавышэнні іх памеру 30 працэнтаў ад памеру сямейнага бюджэту;

– адмена любых плацяжоў у дзіцячых садках і школах;

– увядзенне абмежаванняў для руху па-за працоўным часам.

Дзяржаве цяпер неабходна думаць пра людзей, а не пра свае прынцыпы. У грамадстве чакаюць рэальных дзеянняў, а не ўтойвання фактаў і галаслоўных запэўніванняў аб тым, што праблема вырашыцца сама.

**Марына КОКТЫШ.**

**УЛЫБКА ХУДОЖНИКА**

На минувшей неделе **Александр Лукашенко** обсудил ситуацию с коронавирусной эпидемией с министром внутренних дел **Юрием Караевым**. Было сказано, что с заболеванием должна бороться и милиция.

«*Без милиции мы никак. Но не надо никого хватать, не надо никого напрягать. Просто надо советовать людям, особенно старикам, где помочь, подсказать. Если кому-то надо, хлебушка и молока в магазине приобрести и отнести. Лучше пусть они побудут дома*», – пояснил глава государства.




Рисунок Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.

**СУДЬБОНОСНАЯ ТЕМА**

## Не отступятся?

«Россия предложила Белоруссии создать единую налоговую, таможню и суд» – таким громким заголовком выстрелил на минувшей неделе российский ресурс РБК. Журналисты, конечно, сразу же попытались хайповать. На самом деле это предложено было не сию минуту. В публикации РБК говорится о конкретике 31-й карты «углубления интеграции», которую засветил еще 23 декабря прошлого года тогдашний премьер России Дмитрий Медведев.

Он тогда сообщил журналистам в Москве, что на переговорах с Беларусью не согласована дорожная карта о наднациональных органах, единой валюте и эмиссионном центре. И подчеркнул, что дополнительная финансовая поддержка со стороны России возможна только после исполнения дорожных карт интеграции в рамках Союзного государства.

### Чтобы Лукашенко ездил за зарплатой в Кремль?

В принципе, РБК (а это ресурс авторитетный) со ссылкой на три своих источника, знакомых с ходом переговоров, лишь детализировал сейчас то, о чем упомянул Медведев. И привел неслабый такой перечень из 12 наднациональных органов, работу над созданием которых Москва предлагала начать в рамках «углубления интеграции».

Вот вам этот список: единый эмиссионный центр, подразумевающий введение единой валюты, счетная палата и суд Союзного государства, единый таможенный орган, единый орган по учету собственности Союзного государства, единые налоговый и антимонопольный органы, а также единые регуляторы в области транспорта, промышленности, сельского хозяйства, связи, плюс регулятор объединенных рынков газа, нефти и электроэнергии.

Вообще-то, для мягкого финансово-экономического, а затем и политического поглощения Беларуси достаточно одного лишь единого эмиссионного центра. На практике это означает переход на российский рубль. Понятно, что ни на некий новый общий «белорубль», ни на паритетное управление эмиссионным центром (чтобы наполовину им рулил Минск) Москва априори не пойдет.

Единая таможня означает, что Беларусь будет по умолчанию втянута в российскую санкционную войну чуть ли не с половиной мира. Единая налоговая система – что нас де-факто переведут на российский налоговый кодекс (ну не станут же его ломать под «младших братьев»). И так далее по всему списку.

Надо ли разжевывать, что в итоге от белорусского суверенитета останется мокрое место? Недаром Александр Лукашенко в свое время прокомментировал вопрос создания единой валюты с уничтожающей иронией: «Может, мне за зарплатой на поклон придется ехать в Кремль?»

### Тревожная пауза

После откровений же Медведева Лукашенко в интервью радиостанции «Эхо Москвы» 24 декабря прошлого года был вынужден признаться, что 31-я карта существует. Причем обрисовал ее содержание еще более зловеще: «Есть 31-й план, дорожная карта – это план строительства наднациональных органов: парламент, президент и прочее». Но поспешил добавить: «Мы вообще на эту тему с Путиным договорились не разговаривать».

Стоит отметить, что до того причастные к переговорам белорусские чиновники вели себя, как партизаны на допросе: напрочь отрицали, что в дорожных картах содержатся какие-то политические моменты, угрожающие белорусскому суверенитету. Это к вопросу о честности, прозрачности и подотчетности отечественных властей.

*(Окончание на 2-й стр.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
24 САКАВІКА 2020 г.

ПАЛІТКУХНЯ

# Ігар БАРЫСАЎ:

# «Мы не выбіраем лідара апазіцыі, мы выбіраем проста тэхнічнага кандыдата…»

*Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада)* ***Ігар Барысаў*** *распавёў «Народнай Волі», чаму не трэба звяртаць увагі на дэмаршы Паўла Севярынца і Аляксея Янукевіча, якія больш не ўдзельнічаюць у праймерыз, а таксама пра тое, як мяняў квіткі, каб вярнуцца з Амерыкі ў Беларусь, бо Еўрасаюз зачыніў межы.*

**– Ігар, вы днямі вярнуліся з Амерыкі, дзе правялі тры з паловай тыдні па праграме лідарства…**

– Так, паездка адбылася па запрашэнні амерыканскага боку. Каб вярнуцца на радзіму, спачатку давялося мяняць квіток на Франкфурт, бо туды перасталі лятаць самалёты, а потым з'явіўся квіток на Варшаву. Але ўжо к вечару Варшава зачыніла межы. Атрымалася, што зноў не было магчымасці вылецець. Фактычна апошнім варыянтам заставаўся білет на Маскву. Дзіўна, але па прылёце ў Мінск у мяне нават не запыталіся пра пашпарт…

**– Ці быў стрэс, што можаце застацца за акіянам? Між іншым, ведаю, што некаторыя і жартам і ўсур'ёз раілі вам застацца…**

– Ну які можа быць стрэс, калі ты ў Маямі, у Фларыдзе? (*Смяецца.*)

**– Вялікія ў Амерыцы меры перасцярогі праз каранавірус?**

– У Штатах адносна спакойна, але меры бяспекі вельмі строгія. У кожнай краме, дзяржаўнай установе, кавярні стаяць на ўваходзе антысептыкі. Самае галоўнае – мыць рукі. У масках там амаль ніхто не ходзіць. Усе слухаюць тэлебачанне і тое, што гаворыць улада. У адрозненне ад некаторых постсавецкіх краін у ЗША адкрыты доступ да інфармацыі, і людзі давяраюць агучанай статыстыцы хворых. Ёсць пытанні адносна таго, ці мае, напрыклад, Трамп каранавірус, бо ён меў кантакт з хворым чалавекам. У апошнія дні, калі мы там былі, назіралася некаторая істэрыка – з прылаўкаў магазінаў пачалі змятаць усё што можна. Людзі запасаліся прадуктамі, але гэта не было так, як перад апакаліпсісам. Боек за пакункі з паперай для прыбіральні я не бачыў.

**– Пасля вяртання з-за мяжы рэкамендуюць двухтыднёвую самаізаляцыю. Жонка на вас з перасцярогай, мабыць, глядзела, калі вярнуліся?**

– Я збольшага самаізаляваўся – толькі некалькі разоў выйшаў на вуліцу. Тыя, хто быў са мной у адной групе ў Амерыцы, паступова праходзяць тэсты на каранавірус, і я ведаю, што ў чатырох чалавек вынік адмоўны. Так што, у прынцыпе, я спакойны: малаверагодна, што вірус прычапіўся да мяне ці да іншых. Але мы з сям'ёй таксама максімальна мінімізавалі ўсе кантакты, адмовіліся ад наведавання месцаў масавага скаплення людзей. Прытрымліваемся элементарных правілаў бяспекі, мыем рукі.

**– Вы былі ў Амерыцы, калі Павел Севярынец заявіў, што больш не ўдзельнічае ў праймерыз. За ім грукнуў дзвярыма Аляксей Янукевіч. Вы яшчэ верыце, што з адзіным кандыдатам можа нешта атрымацца?**

– Паглядзім, якая будзе дынаміка ў каранавіруса...



**– Мяркуеце, што некага з тых, хто прэтэндуе на ролю адзінага, падкосіць гэтая каварная хвароба, а хто застанецца – той і мацнейшы?**

– Не, няхай усе будуць здаровыя! *(Смяецца.)*

Пакуль мы з усіх бакоў знаходзімся ў ізаляцыі. Здзейснілася даўняя мара беларускіх патрыётаў – у нас з'явілася мяжа з Расіяй! Каранавірус набірае абароты, і натуральна, што ўсе зараз адмяняюць масавыя мерапрыемствы – напрыклад, той жа Дзень Волі. Усё сыходзіць у анлайн. Таму пытанне з адзіным кандыдатам пакуль падвісла. І калі паездак па рэгіёнах больш не будзе, малаверагодна, што па выніках аб'езду некалькіх рэгіёнаў можна будзе зрабіць выснову, хто перамог у праймерыз.

**– Севярынец зняўся, на сёння быццам бы ў лідарах Губарэвіч.**

– Поўнай карціны няма. Таксама пад пытаннем правядзенне Кангрэсу дэмакратычных сіл. І атрымліваецца, што, калі праводзіць толькі інтэрнэт-галасаванне альбо вылучаць адзінага рашэннем палітычных арганізацый, гэта будзе выглядаць зусім ненатуральна, бо гэта ўсяго 50 працэнтаў ад той схемы, якую мы планавалі рэалізаваць.

**– І што рабіць далей?**

– Спрабуем вырашыць!

Тое, што адбыліся дэмаршы Севярынца альбо Янукевіча, нават і добра, бо гэта таксама працэс. І ў выніку павінен застацца адзін чалавек. І не важна, якім чынам ён застанецца.

Так што я не бачу нічога дрэннага ў тым, што нехта сышоў. Затое засталіся тыя, хто гатовы працаваць у камандзе. Засталіся людзі дамоваздольныя. І працэс працягваецца, выбары адзінага не завершаны. Проста зараз трэба вызначыцца, як усё арганізаваць найлепшым чынам.

Ячшэ варта задаць пытанне, ці не будзе ўвогуле пераносу выбарчай кампаніі. Бо не вядома, што нас чакае. Калі паглядзець, што цяпер адбываецца ў свеце з гэтым каранавірусам… Натуральна, нельга выключаць, што нас гэта абміне, – я ж гавару, што ў мяне нават пашпарт не праверылі, не запыталіся, адкуль я лячу. Таму не выключаю, што пры самым горшым варыянце з каранавірусам у нас таксама ўвядуць нейкія жорсткія сцэнарыі. І тады давядзецца пераносіць дату выбарчай кампаніі. Каранавірус карэктуе ўсе нашы планы і пакуль гуляе на карысць улады.

**– А што вы думаеце наконт меркаванняў некаторых палітыкаў пра тое, што старшыня руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч гуляе на баку ўлады, бо за яго на праймерыз галасуюць вертыкальшчыкі?**

– Поўнае глупства! Дарэчы, калі мы на першым пасяджэнні абмяркоўвалі, як будзем абараняцца, калі прыйдзе група БРСМаўцаў, Павел Севярынец сказаў: маўляў, няхай прыходзяць і няхай галасуюць. Мяркую, калі Павел па выніках аб'езду рэгіёнаў убачыў, што можа не перамагчы, ён проста прыняў для сябе рашэнне застацца аўтарытэтам для пары тысяч беларусаў, якія адгукаліся на ягоныя заклікі бараніць незалежнасць краіны, чым прайграць у працэдуры, дзе возьме ўдзел нашмат большая колькасць людзей.

Я паставіў бы лідарства Севярынца пад сумненне – ён быў лідарам, пакуль арыентаваўся выключна на сваю мэтавую групу вернікаў і актывістаў, унутры якой ён сябе камфортна адчуваў. Але як толькі мэтавая група пачала пашырацца, ён адчуў пэўны дыскамфорт і сышоў.

На самай справе не мае значэння, хто стане пераможцам у выніку праймерыз. Абсалютна не мае значэння! Мы вызначаем супольную стратэгію. І адзіны кандыдат мусіць адпавядаць гэтай стратэгіі. І тое, што Павел выйшаў з гульні, значыць: ён не камандны гулец, які гатовы рэалізоўваць супольную стратэгію.

Канешне, ёсць пытанне адносна ідэолагаў, якія вырашылі паўдзельнічаць у праймерыз. Але ж яны не прыйшлі галасаваць за нейкага праўладнага кандыдата – яго проста няма ў гэтым спісе. А якія мэты яны ставілі – пра гэта можна разважаць. Магчыма, галоўная мэта – якраз унесці нейкі раздрай. Можа, падтрымаць менш радыкальнага кандыдата, які адкрыта не заклікае да Плошчы. Яшчэ адзін з варыянтаў – у выпадку перамогі Севярынец мог бы спрабаваць рэалізоўваць стратэгію байкоту, а гэтую ідэю не падтрымалі ўдзельнікі праймерыз яшчэ на старце. Мяркую, Павел не да канца разумеў, якія абавязальніцтвы давядзецца выконваць. Бо трэба дамаўляцца з усімі. Мы не выбіраем лідара апазіцыі. Мы выбіраем чыста тэхнічнага кандыдата, які адпавядаў бы нашым крытэрыям….

**Марына КОКТЫШ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

# «У маскоўскім аэрапорце мне прапанавалі выпіць чысты спірт…»



*Вядомы паэт распавёў «Народнай Волі», як ён месяц вандраваў па Амерыцы і Еўропе, а затым у Мінску ў яго шукалі каранавірус.*

– На апошні самалёт Масква–Мінск паспеў, пасля, здаецца, палёты прыпыніліся, – *кажа Уладзімір Пракопавіч.*

**– Што за сусветнае турнэ ў вас было?**

– Шчыра кажучы, за месяц і насамрэч наездзіўся, як ніколі. Задачы паездак былі дзве – палітычная і паэтычная. У ЗША спрабаваў высветліць у Дзяржэпартаменце, як яны рэальна збіраюцца забяспечваць і бараніць суверэнітэт Беларусі. Таксама было шмат сустрэч з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Амерыцы. Вырашаў некаторыя літаратурныя і выдавецкія пытанні. Пабываў у некалькіх штатах, затым адправіўся ў Германію і Данію. Затым – Расія.

Калі выпраўляўся ў паездку, такой панікі з-за каранавіруса яшчэ не было, але на маіх вачах у людзей літаральна згасаў інтарэс да палітыкі і да літаратуры. Гэты працэс, як мне падаецца, яшчэ будзе доўжыцца.

Калі прыляцеў у Маскву, то там увогуле амаль ні з кім не сустрэўся, хаця раней з людзьмі былі запланаваны такія сустрэчы. Яны наогул здзіўляліся майму прыезду і пыталіся: «Навошта ты сюды прыехаў, калі ва ўсім свеце каранавірус?»

Я ім адказваў так: «Праблема ж каранавіруса не адмяняе ўсе астатнія праблемы. Не адмяняе інфекцыю дыктатуры і вечных прэзідэнтаў, якая распаўсюджваецца па ўсім свеце. І гэтая інфекцыя горшая за каранавірус».

У рэшце рэшт я зразумеў, што ў сённяшняй сітуацыі эфектыўнасць ад паездак складае, можа быць, усяго 50 працэнтаў.

**– У Маскве вас не адправілі на каранцін пасля Еўропы і Амерыкі?**

– Не, але ў аэрапорце быў даволі смешны выпадак. Санітарна-прапускны кантроль. За сталом – мужык, на стале – бутля з нейкай вадкасцю для дэзінфекцыі. Пытаюся: «Антысептык?» – «Чысты спірт!» – «А выпіць можна?» – «Дык дзеля гэтага і стаіць, а прыдуркі рукі мыюць».

А ўвогуле, калі прыляцеў у Маскву, там практычна ніякага кантролю не было. Відаць, расіяне жывуць па прынцыпе «лепш спірту глынуць і сустрэць каранавірус з песнямі». Гэта псіхалогія, якая гадамі выпрацавана ў гэтым народзе.

**– А ў Мінску ці была праверка?**

– Паколькі я доўга вандраваў па розных краінах, то ў аэрапорце сам падышоў у пункт санітарнага кантролю і вырашыў здаць тэст на каранавірус, каб не падвяргаць рызыцы сяброў і блізкіх. Ужо на наступны дзень мне патэлефанавалі з паліклінікі і сказалі, што тэст даў адмоўны вынік. Праўда, дадалі, што эпідэміёлагі параілі ўрачам за мной паназіраць пэўны час, таму што я быў у зоне рызыкі.

**– Чым зараз збіраецеся займацца ў Мінску?**

– Тым жа, чым і займаўся, – літаратурай. І ў ізаляцыі можна пісаць. Іншая справа, што гэты каранавірус уносіць карэктывы ў наша жыццё, яно ўжо не будзе ранейшым. І гэта добра выяўляецца ў драбязе.

Напрыклад, днямі ў маёй жонкі Вольгі быў дзень нараджэння. Раней мы маглі схадзіць у кавярню, з'ездзіць у Вільнюс альбо запрасіць да сябе гасцей. А зараз нікуды не паедзеш і нікога не запросіш, бо за сталом на цябе будуць глядзець, як на патэнцыяльнага карананосца.

Як звычайна – ужо не выходзіць. Не толькі ў мяне, а ва ўсяго чалавецтва. Трэба будзе нешта прынцыпова змяняць у спосабе існавання. Тыя ўяўленні пра сябе, што чалавецтва выдумала, яны разбураюцца на вачах. Уяўленні пра чалавечую дабрыню, хрысціянства, гуманізм.

**– Ці закончылі вы ўжо свой раман пра Янку Купалу?**

– У той сітуацыі, што зараз ёсць, узбуйнілася праблема жыцця і смерці, і я раблю пэўныя захады, каб гэты складнік быў больш адзначаны ў рамане.

Таму працягваю пісаць раман, увесь час яго перараблю. Я некалькі разоў яго завяршаў, але затым ізноў пачынаў дапрацоўваць. І так зжыўся з галоўным персанажам рамана, што мне ўжо шкада з ім развітвацца.

Паралельна я пішу нейкія іншыя рэчы, і ў мяне складваецца адчуванне, што раблю гэта я не адзін, а на пару з Янкам Купалам. Ён мне нешта падказвае, сярод ночы падымае. Таму я падумаў, што няхай у гэты няпросты час Купала пакуль яшчэ пабудзе са мной.

**Алесь СІВЫ.**

СУДЬБОНОСНАЯ ТЕМА

# Не отступятся?

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Сейчас позиция Минска вроде такова: ни о каких дорожных картах речи быть не может. Но один из собеседников РБК отмечает, что переговоры об интеграции поставлены всего лишь на паузу по инициативе Минска.

Но пауза – это всего лишь пауза. Надежды на то, что затеянная Путиным конституционная перетряска заставит Москву забыть о дорожных картах, наивны. Новый премьер РФ Михаил Мишустин пару раз уже напомнил коллеге Сергею Румасу, что Союзное государство нужно-де достраивать.

То, что сам Путин вроде как решил для себя проблему 2024 года через обнуление президентских сроков, не означает, что давление в этом плане на Беларусь прекратится. Закрепить ее в своей орбите – стратегическая задача Кремля, особенно после ухода Украины.

А если вдруг удастся сломать Лукашенко (или вообще случится какой-то форс-мажор), то Кремль, естественно, не преминет быстренько прибрать к рукам нашу территорию. И тогда вполне возможен возврат к плану оформить дальнейшее правление Путина в качестве главы объединенной державы.

## Форс-мажоры уже на пороге

Последствия пандемии коронавируса пока сложно прогнозировать. Аналитики предлагают веер прогнозов, вплоть до апокалиптических. Понятно, что в худшем случае – если накатит мировой экономический кризис – падение белорусской экономики, сильно завязанной на нефть и внешние рынки, будет вообще кошмарным.

Вот тогда для Кремля и наступит удобный момент вернуться к 31-й карте. Естественно, российская экономика тоже пострадает. Но у Москвы есть солидный запас прочности. Только в Фонде национального благосостояния накоплено более 150 млрд долларов. К тому же Россия богата природными ресурсами, ее экономика во многом самодостаточна. Чего не скажешь о белорусской. А наши золотовалютные резервы, и так небогатые, с начала года стремительно тают.

## Если экономика начнет реально валиться…

Путин, в принципе решив для себя проблему-2024, заимел уйму времени, чтобы спокойно и методично дожимать белорусского партнера. Необходимые белорусской экономике ресурсы в руках Москвы.

А что может противопоставить нажиму Минск? Да, он зашевелился в плане диверсификации поставок нефти. Но это нефть по мировой цене. А значит, прибыльность нефтепереработки все равно будет падать.

Между тем именно нефтепродукты составляли значительную часть белорусского экспорта в Европу. Предложить избалованным европейцам какие-то продвинутые товары в серьезном объеме наша довольно отсталая экономика не может. Да и вообще – какая тут к черту торговля, когда все границы закрыты? Туши свет.

Короче, Кремль держит дорожные карты наготове и терпеливо ожидает, пока невзгоды поубавят гордости у белорусского партнера. Но последнее слово должно быть не за Лукашенко, а за народом, который, как я полагаю, все же хочет быть свободным, а не находиться под чьей-то пятой.

**Александр КЛАСКОВСКИЙ.**
*(Naviny.by)*

З НАГОДЫ

# «Аддаю перавагу асабістым зносінам»

*На мінулым тыдні старшыня Савета Рэспублікі* ***Наталля Качанава*** *правяла прамую тэлефонную лінію. Паведамлялася, што за тры гадзіны да яе змаглі датэлефанавацца 25 чалавек – тэлефон не змаўкаў ні на хвіліну!*

*«Народная Воля» пацікавілася ў прадстаўнікоў палітычных партый, ці выкарыстоўваюць яны прамыя лініі як спосаб зносін з высокапастаўленымі чыноўнікамі.*

Лідар Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» **Сяргей Калякін** на прамыя лініі чыноўнікам прынцыпова не тэлефануе.

*«Я лічу, што калі пытанне сапраўды гарачае і вельмі канкрэтнае, то былая кіраўніца Адміністрацыі можа паўплываць на ягонае вырашэнне*, – мяркуе Калякін. – *А што тычыцца, напрыклад, пытання свабодных выбараў, то бессэнсоўна задаваць такое пытанне. Мы ведаем усе афіцыйныя адказы: выбары ў нас праводзяцца выдатна, па законе і без фальсіфікацый. Нічога новага мы падчас прамой лініі, падчас публічнай размовы не пачуем. Нават калі Качанава і думае па-іншаму, яна ўсё роўна дасць афіцыйны адказ.*

*Сам я чыноўнікам на прамыя лініі не званю. Бо выдатна разумею, як функцыянуе гэтая сістэма…»*

Бізнесмен і старшыня Беларускай партыі «Зялёныя» **Дзмітрый Кучук** лічыць, што лепей сустракацца з чыноўнікамі асабіста, а не задаваць ім пытанні па тэлефоне.

*«Гэта найбольш эфектыўна*, – лічыць Кучук. – *Хаця з некаторымі чыноўнікамі лепей, магчыма, перамовіцца і падчас прамой лініі, калі пытанне чыста фармальнае. Дарэчы, пасля падобных тэлефонных размоў вы можаце атрымаць ад суразмоўцы нават пісьмовы адказ».*

Старшыня партыі «Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада» **Сяргей Чэрачэнь** лічыць, што прамыя лініі – гэта фармальнасць.

*«Не думаю, што тая ж Качанава не мае інфармацыі аб тым, што адбываецца ў краіне, і падчас прамых ліній пазнае шмат новага,* – кажа Сяргей. – *А што тычыцца сапраўды важных пытанняў, то адным званком іх не вырашыш. Значна лепш дамаўляцца пра асабістую сустрэчу і падчас прамой гутаркі даказваць сваю праваату. Па некаторых пытаннях, над якімі я працую, даводзіцца сустракацца з чыноўнікамі альбо мне, альбо сябрам маёй каманды, і нам удаецца знаходзіць агульную мову».*

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Ігар Барысаў** некалькі разоў карыстаўся прамымі лініямі для размовы з мясцовымі чыноўнікамі.

*«Потым яшчэ пісьмова дасылалі мне свае пісьмовыя адказы, але малаверагодна, што яны такім чынам ў стане паўплываць на вырашэнне сітуацыі*, – дзеліцца сваімі думкамі Барысаў. – *Яны дэманструюць сваю адкрытасць для народа, могуць нават на некалькіх бяскрыўдных выпадках прадэманстраваць, што робяць. Але калі задаць ім пытанне палітычнага плана, пра тыя ж свабодныя выбары, натуральна, не будзе ніякіх зрухаў і змен. Таму гэта ўсё толькі дэкарацыя, каб паказаць, што ўлада спрабуе быць адкрытай і чуе галасы людзей.*

*Я некалькі разоў спрабаваў запісацца на прыём да міністра ўнутраных спраў Юрыя Караева. Але да яго так проста не трапіш! Спачатку напісаў яму ліст, але атрымаў адказ ад аднаго з ягоных намеснікаў. Не так проста старшыні партыі трапіць да міністра – працэдура запісу аднолькавая для ўсіх. І ўжо на самым пачатку адбракоўваюць тых, хто хоча абмеркаваць з тым жа Караевым палітычныя пытанні…»*

Былы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатоль Лябедзька** гаворыць, што імкнецца выкарыстоўваць усе магчымыя сродкі камунікацыі.

*«Але, на мой погляд, больш эфектыўны варыянт – гутарка з вока на вока, а не праз тэлефон,* – лічыць Лябедзька. – *Мае калегі спрабавалі па тэлефоне мець зносіны з чыноўнікамі, але заўсёды вельмі складана датэлефанавацца, таму я аддаю перавагу асабістым сустрэчам. Напрыклад, мы сустракаліся з тады яшчэ міністрам абароны Раўковым, калі ён праводзіў прыём грамадзян, – спецыяльна нават у Навагрудак ездзілі, гэта было цікава! Увосень, перад тым як правесці ў рамках экспертнага клуба дыскусію па тэме адукацыі, схадзілі на сустрэчу да міністра адукацыі Ігара Карпенкі. Пасля гэтага да нас на пасяджэнне экспертнага клуба прыйшла цэлая дэлегацыя чыноўнікаў, і гэта была адна з самых добрых дыскусій. Восенню мінулага года ў нас была сустрэча са старшынёй Канстытуцыйнага суда Пятром Міклашэвічам. Мне такі фармат гутарак значна бліжэй. Кагосьці, можа, задаволіць і размова па тэлефоне, але я аддаю перавагу асабістым зносінам».*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

СЛЫШАЛИ?

# От коронавируса можно застраховаться

*Такую услугу сегодня своим клиентам предлагает компания «Белгосстрах».*



В «Белгосстрахе» можно оформить комплексную страховку от опасных заболеваний, в том числе и инфекционных. В перечне заболеваний – тиф, сальмонеллез, дифтерия, вирусный гепатит А, холера, а также коронавирусная инфекция.

*«При страховой сумме 3000 белорусских рублей страховой взнос составит 30 белорусских рублей!* – говорится в информационных материалах «Белгосстраха». – *При наступлении страхового случая установлены следующие размеры страховых выплат: смерть – 3000 рублей, временная утрата трудоспособности до 21 календарного дня – 450 рублей, свыше 21 дня – 600 рублей».*

*«Деньги небольшие, но выплаты хорошие получаются,* – комментируют в офисе компании. – *Мы всем предлагаем этот вид страхования, тем более сегодня это актуально».*

Правда, несмотря на панику из-за коронавируса, очередей на оформление страховок в офисах «Белгосстраха» сегодня не наблюдается.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Какие расходы возместят по страховке?

*Если за границей вы заразились коронавирусом, но были застрахованы, вам гарантируется оплата расходов по оказанию скорой и неотложной медицинской помощи, включая медицинскую эвакуацию, медикаментозное лечение.*

Для этого необходим договор по добровольному страхованию от несчастных случаев и болезней на время поездки за границу или комплексному добровольному страхованию туристов.

*«Выявление у застрахованных лиц вируса, помещение их в карантин, возвращение на родину после окончания карантина, вакцинация от вирусных заболеваний и иные профилактические меры (в том числе приобретение препаратов для профилактики ОРЗ и средств индивидуальной защиты) не относятся к страховым случаям и возмещению не подлежат»,* – говорится на сайте компании.

Расходы также будут возмещены, если в период действия договора у выгодоприобретателя, его несовершеннолетнего ребенка либо близкого родственника в возрасте старше 60 лет диагностировали коронавирус, в связи с чем властями вокзала, аэропорта, авиакомпании официально запрещена посадка в транспортное средство.

При этом пребывание в карантине и связанные с этим расходы (в том числе по ожиданию рейса, приобретению билетов) не являются страховым случаем и не возмещаются.

*«Заражение коронавирусом при наличии договора по риску «впервые выявленное заболевание» будет приниматься страховщиком к рассмотрению и страховой выплате в соответствии с условиями страхования»,* – разъясняют в компании.

**Марина КОКТЫШ.**

НЕСТАНДАРТ

## Денис МАЦУЕВ, пианист:
# «Музыка лечит»



*Онлайн-концерт пианиста Дениса Мацуева в Московской филармонии посмотрели более 1,5 миллиона человек! Музыкант исполнил фортепианный цикл Петра Ильича Чайковского «Времена года».*

*Из-за угрозы распространения коронавируса Московская филармония на время ограничения массовых мероприятий организовала проект «Домашний сезон», который продлится до 10 апреля.*

*«Все находятся в нервном состоянии,* – говорит Денис Мацуев. – *Я всегда, когда нервничаю, подхожу к инструменту – и всё проходит. Я знаю, что музыка лечит».*

В концертной серии примут участие многие известные исполнители. Они согласились поддержать инициативу бесплатно.

Одна из благодарных слушательниц концерта Дениса Мацуева поделилась своими впечатлениями:

*«Это гораздо лучше, чем просто слушать новости и печалиться о том, что, скорее всего, никакого света в конце тоннеля нет. А здесь всегда какие-то положительные эмоции, всегда есть над чем подумать, над каждым музыкальным произведением, над каждым спектаклем. Всегда остается какое-то послевкусие, хочется с кем-то обсудить, кому-то позвонить, пообщаться».*

Надо сказать, что билеты на концерт пианиста в Большом театре Беларуси, запланированный на 13 апреля 2020 года, стоили от 54 до 354 рублей.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# «Мы нават штангі апрацоўваем антысептыкам...»

*Беларускія спартсмены і трэнеры распавялі «Народнай Волі», як каранавірус паўплываў на іх жыццё.*

**Ганна ГУСЬКОВА, алімпійская чэмпіёнка па фрыстайле:**



– Ужо надакучыла, што ўсе гавораць пра каранавірус. З кожнага вугла – толькі пра гэта, у людзей нейкі масавы псіхоз. Зразумела, што сітуацыя ў некаторых выклікае страх, але ж не трэба дадаткова накручваць паніку.

На маю думку, трэба не панікаваць, а прытрымлівацца пэўных правілаў, каб не захварэць: пастаянна апрацоўваць рукі антысептыкамі, паменш знаходзіцца ў месцах, дзе праводзяцца масавыя мерапрыемствы, і быць далей ад людзей з кашлем.

На спартыўныя планы сітуацыя асабліва не паўплывала, бо ў фрыстайлістаў сезон ужо закончыўся. Нас пастаянна правяраюць спартыўныя медыкі. Быццам бы ўсе здаровыя.

**Вольга УЛАСАВА, галоўны трэнер зборнай Беларусі па скачках на батуце:**



– Эпідэмія каранавіруса ва ўсім свеце канкрэтна ўдарыла па падрыхтоўцы нацыянальнай каманды. Адменены рэспубліканскі турнір, які павінен быў прайсці напрыканцы гэтага месяца ў Віцебску, і красавіцкі этап Кубка свету ў Італіі. Пакуль пад пытаннем правядзенне 3–5 мая чэмпіянату Еўропы ў Швецыі. А перад Алімпіядай давядзецца правесці тры старты запар – у Італіі, Партугаліі і Швейцарыі.

Адным словам, уся падрыхтоўка да Гульняў сарвалася. Зараз мы, што называецца, варымся ва ўласнай кашы, бо спаборніцтваў няма. Думаю, Алімпіяду ў гэтым годзе не адменяць, хаця было б лагічна яе перанесці, каб была нармальная падрыхтоўка.

А ў астатнім, здаецца, усё нармальна. Ніхто не кашляе, тэмпература ва ўсіх у норме. Спартсмены п'юць вітамін С і комплекс вітамінаў. Калі нехта адчувае сябе дрэнна, доктар адразу прымае меры.

**Віталь ГУРКОЎ, неаднаразовы чэмпіён свету па тайскім боксе:**



– На рабоце нашага спартыўнага клуба сітуацыя практычна не адбілася, каранцін мы не ўводзілі. І не скажаш, што на трэніроўкі стала менш прыходзіць людзей. Хаця апошнім часам я заўважыў, што ў Мінску стала менш машын.

Але ў планы каранавірус, безумоўна, уносіць свае карэктывы. Напрыклад, я павінен быў выступіць 19 сакавіка ў адным са сталічных клубаў з гуртом «Лялькі», але пакуль наогул не вядома, ці адбудзецца мерапрыемства. Не выключана, што яго перанясуць.

Якія асабіста я ўжываю меры, каб засцерагчыся ад хваробы? Выключна народныя метады! Днём – фізкультура, вечарам – лазня і ўнутраная дэзінфекцыя.

**Віктар ШАРШУКОЎ, галоўны трэнер мужчынскай нацыянальнай каманды па цяжкай атлетыцы:**



– У нашых планах па падрыхтоўцы да Алімпіяды нічога не мяняецца. Рыхтуемся да чэмпіянату Еўропы ў Маскве, які з красавіка перанесены на чэрвень, а таксама да чэмпіянату свету сярод атлетаў да 20 гадоў.

Ведаю, што ў некаторых краінах каманды распусцілі, але ў нас – поўная мабілізацыя. Мацнейшыя атлеты ўсе разам знаходзяцца на базе ў «Стайках». Гатовы тут трэніравацца ў аўтаномным рэжыме і перачакаць усе непрыемнасці.

Таксама прыняты дадатковыя меры перасцярогі ад інфекцыі. На базе кожныя тры гадзіны праходзіць санітарная ўборка, паставілі лямпы, якія іанізуюць паветра. Хлопцаў я не выпускаю ў горад, да мінімуму зведзены ўсе кантакты.

Хапае ў нас антысептыкаў, нават штангі імі праціраем. Два разы на тыдзень урач правярае ва ўсіх тэмпературу. Адным словам, робім усё магчымае і немагчымае, каб не захварэць.

**Алесь СІВЫ.**

### ТЫМ ЧАСАМ

*Як паведамляе Міністэрства спорту і турызму, усім арганізацыям, падпарадкаваным іх ведамству, а таксама абласным і мінскаму гарадскому ўпраўленням спорту і турызму рэкамендавана да 6 красавіка адмяніць з наступным пераносам на пазнейшыя тэрміны спартыўныя і спартыўна-масавыя мерапрыемствы з удзелам дзяцей і падлеткаў. Тое ж самае тычыцца і міжнародных спартыўных спаборніцтваў на тэрыторыі Беларусі.*

ШАШКІ

# Бліц- конкурс

Прапануем заданні чарговага бліц-конкурсу. Знайдзіце выйгрыш за белых у прапанаваных пазіцыях. Аўтары – мінчане **Валерый Свізінскі** (№1 і №2), **Леанід Рыбакоў** (№3 і №4), **Віктар Шульга** (№5).



№1 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: a3, d2, d4, e3, e5, h4 (6).
**Чорныя**: b4, b6, c5, c7, d8, f8, h6 (7).
№2 **Белыя**: a3, b4, c1, d2, f4, g3, g5, h4 (8).
**Чорныя**: a5, c5, d6, d8, e5, h6 (6).
№3 **Белыя**: дамкі a5, b6, f8 (3).
**Чорныя**: простая d2, дамка e1 (2).
№4 **Белыя**: простая d6, дамкі a3, d8, e7 (4).
**Чорныя**: простая e3, дамка g7 (2).
№5 **Белыя**: a5, b6, c3, d4, e1, e5, f4, g3, g5, h4 (10).
**Чорныя**: b4, b8, c7, d2, d8, e7, f2, f8, h2 (9).

# Міжнародныя вопыты

Мінчанін **Леанід Рыбакоў** вядомы нашым чытачам як складальнік эцюдаў у рускія шашкі. На гэты раз ён прапануе на іх суд свае вопыты на 100-клетачнай дошцы.

№6 **Белыя**: простая 22, дамкі 11, 13 (3).
**Чорныя**: простыя 3, 14, 23, дамка 32 (4).
16(46**ABC**), 8, 17, 5 х. **A**(49), 22-18, 13-27 х. **B**(41), 13-18, 17, 46 х. **C**(9), 4(46**DE**), 4-18, 17, 5 х.**D**(41), 4-18, 17, 46 х.**E**(49),22-18, 4-27 х.
№7 **Белыя**: простая 14, дамкі 30, 36 (3).
**Чорныя**: простыя 5, 12, 32, дамка 38 (4).
**I**10, 47(49**AB**), 43, 26(38), 48 х. **A**(38-20), 15(37), 47(20, 41), 19 х. **B**(15), 30-24(38), 26 х. **I**47(37, 41**II**) =. **II**(42), 10, 19 х.
№8 **Белыя**: простая 9, дамка 36 (2).
**Чорныя**: простыя 16, 17, 28, 40 (4).
3(45/44**ABC**), 21, 50 х. **A**(33), 21, 35 х. **B**(16-21), 27, 35 х. **C**(17-21, 32), 27, 45 х.

Далей прыводзім міжнародныя кампазіцыі вядучага рубрыкі.



№8 *(гл.дыяграму)* **Белыя**: 10, 12, 13, 16, 17, 18, 19, 21, 23, 46 (10).
**Чорныя**: 1, 5, 7, 24, 26, 30, 33, 36, 37, 41 (10).
13-8, 3(29), 7(14**AB**), 17, 8, 15, 41 х. **A**(12), 25(17**C**),48, 47 х. **C**(14), 3, 15, 41 х.**B**(17),25, 37, 39 х.
№9 **Белыя**: 23, 25, 29, 39, 40, 41, 47 (7).
**Чорныя**: 9, 12, 18, 27, 35, 36, 38 (7).
24(33), 42, 3(38:47), 15 х.
№10 **Белыя**: простыя 12, 42, дамкі 3, 20 (4).
**Чорныя**: простыя 16, 26, 30, дамка 8 (4).
37(17), 21(27**A**), 38(27-31**B**), 47, 35 х.**B**(34), 16(39**C**), 49 х.**C**(40), 11(45), 50 х.**A**(17), 25/33(35), 39(17-21), 44(27**D**),49(21), 37-32, 16, 11, 50 х.**D**(26),49(21, 40), 11(45), 50 х.
№11 **Белыя**: простыя 16, 24, дамкі 2, 30 (4).
**Чорныя**: простыя 15, 21, 27, 32, 35, 37, 42 (7).
20(35:24**A**), 35, 31, 47 х. A(15:24), 37, 47(40), 11(45), 50 х.
№12 **Белыя**: простыя 21, 24, 29, 41, 45, 50, дамкі 26, 27, 31, 47 (10).
**Чорныя**: простыя 10, 16 (2).
Белыя пачынаюць і замыкаюць дамку і шашку чорных:
44(14**A**), 19, 45-40, 31-36, 27-31, 36-41, 26-37 [(**46**)36]. **A**(15), 43, 47-38, 26-21, 20, 39, 49 [(**50**)44].

# Супаставім рашэнні

«Народная Воля» ад 11 лютага 2020 года.
**№1** – fe3,d4,g3, ab2, c3, g7(f6, g3), f6(d6), g7x.
**№2** – cb6!(c5), d4!(g5), f4!, b6x.
**№3** – de5(c7), b6(c5),gf6, f6, f4, d8x.
**№4** – f6, f2, d6, c5, c7(d6), g1, c3x.
**№5** – d6, c7(b6),c7,f6, d2x.
**№6** – bc5, g5, e7, a7(hg3), ac5(h2), f2(e3), g3x.
**№7** – b8(g7), h8, c1(ab2, d2), c3 x.
**№8** – 22, 14, 3, 5 x.
**№9** – 32, 41, 35-30, 15-10, 5, 49x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч, Павел Каролік** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец), **Сяргей Бурко** (Орша), **Анатолій Чумакоў** (Светлагорск).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць.
Свае лісты дасылайце на адрас:
***220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, «Шашкі»***
або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

КРЫЖАВАНКА

# «Гартаваныя у «Полымі», пешчаныя ў «Маладосці»...»

*Прысвячаецца светлай памяці беларускіх пісьменнікаў Міколы Аўрамчыка і Леаніда Дайнекі*



**Па гарызанталі:** 1.«Маладосць і «...» – літаратурна-мастацкія часопісы, у якіх працаваў паэт, празаік, перакладчык, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны Мікола Аўрамчык. 14 студзеня – 100 гадоў з дня яго нараджэння. 3.«... добры, Мінск!» – верш М.Аўрамчыка. 5.«... ваўкалака» – гістарычны раман Леаніда Дайнекі, за які, як і за раман «Меч князя Вячкі», пісьменнік быў узнагароджаны прэміяй К.Каліноўскага. Таксама ён быў уганараваны медалём «500-годдзе Аршанскай бітвы». 28 студзеня – 80 гадоў з дня нараджэння пісьменніка. 8.Буйны беларускі горад, дзе ў раённай газеце «Камуніст» быў упершыню надрукаваны верш М.Аўрамчыка. 9.«Той налева, той направа – // сыцейшая бы куцця. // А ... шукае праўды // За цану жыцця» – з верша Л.Геніюш «Паэт». 10.«Мая ... саракавая» – зборнік вершаў Л.Дайнекі (1979 г.). 12.Намеценая ветрам гурба снегу. 14.Лёд пачарнеў, ... шуміць – чакай адлігі (прыкм.). 16.Адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка ў Грэцыі. 17.«Мабыць, адтаго і слова «краты» // Нездарма на ўвазе меў ... , // Ёміста назваўшы партакратамі // Крымінальна-палітычны зброд» – з верша М.Аўрамчыка «Метамарфоза». 19. «... жураўлёў» – верш М.Аўрамчыка, якому ў 1939 годзе даў высокую адзнаку Я.Колас. 21.Адзінка падліку выйгрышаў у спартыўных спаборніцтвах. 22.Лятальны апарат. 26. ... не лета, у шубу адзета (прык.). 27.«Не трапіў жа я ў сталінскі ..., // Таму, што нарадзіўся пазнавата» – з верша М.Аўрамчыка «Хоць я не дзяк». 28.Назва зборніка вершаў для дзяцей М.Аўрамчыка (1950 г.).

**Па вертыкалі:** 1.Узоры правільнага і прыгожага пісьма. 2.Рэчаіснасць. 3.Тое, што і падарунак. 4.Беражы ... у вялікі мароз (прык.). 5.Якое ..., такое і племя (прык.). 6.Сведчанне чаго-небудзь. 7.Устройства, якое выкарыстоўваецца для ўзаемадзеяння карыстальніка (аператара) з камп'ютарам. 10. Вялікі камень. 11.«... былых канагонаў» – зборнік вершаў М.Аўрамчыка, за які ён быў узнагароджаны літаратурнай прэміяй імя Я.Купалы (1964 г.). 13.Тое, што і памідор. 15.Дастаўка, адвоз чаго-, каго-небудзь куды-небудзь. 18.Кошка сцяну дзярэ – да непагадзі, клубком ляжыць – на ... (прыкм.). 20.«На Новы год пасвяткаваць // У горад завітала ...» – з верша «Ёлка» М.Танка, якога М.Аўрамчык лічыў сваім настаўнікам. 23.Каманда сабакам на паляванні. 24.«Любіце і шануйце, як святыню, роднае слова, з якім вас літасцівы ... на свет пусціў» (Ф.Скарына). 25.На ... загрымела – будзе холад (прыкм.).

## Адказы на крыжаванку

**Па гарызанталі:** 1.«Полымя». 3.Дзень. 5.След. 8.Бабруйск. 9.Паэт. 10.Вясна. 12.Сумёт. 14.Лес. 16.Ном. 17. Народ. 19.Адлёт. 21.Ачко. 22.Карабель. 26.Зіма. 27.ГУЛАГ. 28.«Дружба».

**Па вертыкалі:** 1.Пропісь. 2.Ява. 3.Дар. 4.Нос. 5.Семя. 6.Доказ. 7.Тэрмінал. 10.Валун. 11.Сустрэча. 13.Тамат. 15.Адвозка. 18.Мароз. 20.Ёлка. 23.Ату! 24.Бог. 25.Лёд.

**Лявон ЦЕЛЕШ.**
**г.Дзяржынск.**

ЧУЛІ?

# Скульптура Святога Губерта з'явіцца ў Гродне

*Плануецца, што скульптуру сярэднявечнаму заступніку горада ўсталююць побач з Домам прафсаюзаў.*

Метровая бронзавая фігура Святога Губерта ўзвысіцца на пастаменце вышынёй 2,5 метра. Эскізны праект помніка ўжо падрыхтаваны гродзенскім скульптарам **Уладзімірам Панцялеевым**.

Святы Губерт лічыцца патронам паляўнічых і заступнікам жывёл. Алень Святога Губерта змешчаны на гербе горада. Першая знойдзеная выява герба на пячатцы горада датуецца 1565 годам. Герб афіцыйна зацверджаны Гродзенскім гарадскім Саветам.

На пачатку двухтысячных гадоў гродзенцы пачалі адзначаць Дзень Святога Губерта, а з 2013 года гарадскія ўлады ў лістападзе на Дзень горада афіцыйна праводзяць мерапрыемствы ў гонар заступніка Гродна.

Паданне пра тое, як перад Губертам з'явіўся алень з залатым крыжам паміж рагоў, дагэтуль вельмі папулярнае ў гродзенцаў.

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.
Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 23.03.2020 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 012 экз. Заказ № 886.